# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 14(743) ● 15 красавіка 1994 г. ● Цана 25 руб.


# БУТРАС ГАЛІ — ЗАМЕЖНЫ ЧЛЕН НАШАЙ АКАДЭМІІ

## Знаходзячыся з афіцыйным візітам у Беларусі, Генеральны сакратар ААН наведаў Акадэмію навук

*БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА. Бутрас Бутрас Галі нарадзіўся 14 лістапада 1922 года ў Каіры. У 1946-м атрымаў ступень бакалаўра права ў Каірскім універсітэце, а ў 1949 годзе — ступень доктара міжнароднага права ў Парыжскім універсітэце. Аўтар больш як 30 кніг і 100 публікацый па пытаннях міжнародных адносін, знешняй палітыкі, дыпламатыі, правоў чалавека, эканамічнага і сацыяльнага развіцця. З 1949 па 1979 Бутрас Галі — прафесар міжнароднага права і міжнародных адносін Каірскага універсітэта. У кастрычніку 1977 года быў назначаны дзяржаўным міністрам па замежных справах. У верасні 1978-га Бутрас Галі ўдзельнічаў у рабоце канферэнцыі на вышэйшым узроўні ў Кэмп-Дэвідзе і адыграў вядомую ролю ў дасягненні Кэмп-Дэвідскага пагаднення паміж Егіптам і Ізраілем. З 1987 года Б. Галі быў членам парламента Егіпта. З мая 1991-га аж да назначэння Генеральным сакратаром ААН ён з'яўляўся намеснікам прэм'ер-міністра Егіпта па замежных справах. 1 студзеня 1992 года Бутрас Галі стаў Шостым Генеральным сакратаром ААН...*



У Акадэмію навук Бутрас Галі прыбыў у суправаджэнні міністра замежных спраў нашай рэспублікі Пятра Краўчанкі, прадстаўніка ААН у Беларусі Мэцью Каханэ, іншых афіцыйных асоб. Ад імя членаў прэзідыума, усіх супрацоўнікаў акадэміі высокага госця вітаў прэзідэнт АН РБ Л. М. Сушчэня. У сваёй кароткай прамове Леанід Міхайлавіч сказаў, што візіт Бутраса Галі мае для нашай краіны вялікае значэнне. І не толькі ў палітычным альбо эканамічным плане, але і ў навуковым. Дзякуючы ААН і яе Генеральнаму сакратару, зазначыў прэзідэнт, перад Беларуссю адкрываюцца ўсё новыя перспектывы для інтэграцыі ў сусветную навуковую прастору. На заканчэнне Леанід Міхайлавіч павіншаваў Бутраса Галі з яго абраннем замежным членам Акадэміі навук Беларусі і ўручыў яму адпаведны дыплом.



Затым перад прысутнымі выступіў сам Бутрас Галі. Ён сказаў, што для яго вялікі гонар знаходзіцца ў такой высокай і паважанай навуковай установе, і што ён з задавальненнем прыняў прапанову выступіць перад беларускімі навукоўцамі. Потым Генеральны сакратар ААН расказаў пра цяперашнюю дзейнасць арганізацыі, пра яе ролю ва ўрэгуляванні ваенных канфліктаў, падтрыманню міра ва ўсім свеце. Адзначаны быў і ўдзел Беларусі ў міратворчых акцыях ААН. Поўны тэкст выступлення Бутраса Галі будзе змешчаны ў наступным нумары газеты.



Сустрэча супрацоўнікаў акадэміі з Бутрасам Галі закончылася тым, што Генеральны сакратар ААН уручыў прэзідэнту АН Беларусі Л. М. Сушчэні спецыяльнае выданне (на пяці мовах) Устава Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Алесь ЮРЫН.

Фота М. БУДЧАНІНА.







# *Агульны сход Акадэміі навук Беларусі*

## З даклада акадэміка-сакратара Аддзялення фізіка-тэхнічных праблем машынабудавання і энергетыкі акадэміка *С. А. АСТАПЧЫКА*

**У аддзяленні намецілася ўстойлівая тэндэнцыя адтоку навуковых кадраў. Толькі за два гады (1992—1993) колькасць навуковых супрацоўнікаў зменшылася на 130 чалавек, у ліку якіх — 45 кандыдатаў навук. Нягледзячы на гэта, інстытутамі аддзялення былі працягнуты тэарэтычныя і практычныя даследаванні па праграмах фундаментальных даследаванняў «Матэрыял-2», «Машынабудаўніцтва-2», «Энергетыка-2». Атрыманы новыя навуковыя вынікі ў галіне фізікі трываласці і пластычнасці, цеплафізікі і цеплаэнергетыкі, ядзернай энергетыкі, тэорыі трэння і зносу, надзейнасці і рэсурса ў машынабудаўніцтве, фізіцы, хіміі і механіцы паверхні, неразбураючых фізічных метадаў кантролю. Атрыманы 53 станоўчыя рашэнні на выдачу аўтарскага пасведчання і 14 патэнтаў, заключан і выконваецца шэраг камерцыйных пагадненняў і кантрактаў з замежнымі фірмамі.**

**Нашымі інстытутамі было арганізавана 6 навукова-тэхнічных канферэнцый і семінараў, у тым ліку 3 міжнародныя. Навукоўцамі за гэты час выдадзена 12 манаграфій, 10 прэпрынтаў, больш 400 артыкулаў, 350 тэзісаў дакладаў у міжнародных, рэспубліканскіх і іншых выданнях. Абаронена 16 доктарскіх і 22 кандыдацкія дысертацыі.**

**З найбольш важкіх дасягненняў у галіне фундаментальных ведаў трэба назваць такія, як цыкл работ члена-карэспандэнта АНБ Б. І. Купчынава і яго супрацоўнікаў У. Г. Радненкова і С. Ф. Ермакова па трыбалогіі вадкіх крышталяў, цыкл работ акадэміка АНБ і Нью-Йоркскай акадэміі ЗША Б. А. Калавандзіна з супрацоўнікамі лабараторыі турбулентнасці ІЦМА і Неапалітанскага Універсітэта, у многім раскрываючых анамальныя эфекты працэсаў турбулентнасці і маючых вялікую перспектыву ў праблеме лабавога супраціўлення аб'ектаў, якія рухаюцца ў вадкім і паветраным асяроддзях, а таксама ў вытлумачэнні атмасферных геафізічных працэсаў у водных і паветраных басейнах; апублікаваная за мяжой серыя артыкулаў доктара і кандыдата фізіка-матэматычных навук У. І. Круглова і І. Я. Трале (ФТІ) па тэарэтычных мадэлях прынцыпова новага класа лазераў нанаэлектронных прыбораў і на свабодных электронах для мікралітаграфіі ў электроніцы. А. І. Свірыдзенкам, М. К. Мышкіным і С. А. Чыжыкам (ІММС і АПР) паспяхова развівалася тэорыя дыскрэтнага фрыкцыённага кантакту з выкарыстаннем найноўшай эксперыментальнай тэхнікі, якая заснавана на тунэльнай і атамнасілавой мікраскапіі. Калектывам аўтараў пад рэдакцыяй акадэміка В. А. Белага, прафесара М. К. Мышкіна і члена-карэспандэнта АНБ Ю. М. Плескачэўскага ў ЗША надрукавана манаграфія, у якой вачыма аўтараў з ЗША, краін СНД і Беларусі ў гэтай галіне ведаў пагледжана на механізм зносу і фізічную сутнасць трэння.**

**Навуковых распрацовак аддзялення шмат укаранялася ў народную гаспадарку рэспублікі. Найбольш важкія з іх — аўтаматызаваныя камп'ютэрныя лазерныя комплексы для апрацоўкі металічных матэрыялаў, дрэва і каменя, доследныя ўзоры бронежылетаў новага пакалення для войск МУС і пагранвойск, А1-графітавыя кампазіцыі для новага пакалення рухавікоў, лентачныя пілы для раздзелкі круглай драўніны і складанапрофільны інструмент для дрэваапрацоўчых і мэблевых прадпрыемстваў рэспублікі. Гэта — укараненні фізіка-тэхнічнага інстытута. Інстытут цепла- і масаабмену прапанаваў цеплавізійныя комплексы для медыцынскай дыягностыкі (укаранёны ў БелНДІ кардыялогіі і 10-й дзіцячай паліклініцы г. Мінска), ультрафільтрацыйную ўстаноўку для ачысткі вод (на ЦЭЦ-4); Інстытут надзейнасці і даўгавечнасці машын распрацаваў, вырабіў і ўкараніў 30 тысяч камплектаў пазіцыяніравання для аўтаматычных галовак станкоў на Гомельскім заводзе станочных вузлоў; Інстытут механікі металапалімерных сістэм вырабіў і ўкараніў даўгавечныя ўшчыльнікі поршняў буравых помпаў (ВА «Беларусьнафта»), участак будаўнічых канструкцый з палімерных кампазітаў (Гомельскі завод «Строматалінія»), фільтруючыя матэрыялы для ачысткі прамысловых сцёкаў (ВА «Гомельдрэў»); 11 прыбораў дыягностыкі, прэзентацыя беларускай крэдытнай карткі, якая адпавядае сусветным стандартам — справа супрацоўнікаў Інстытута прыкладной фізікі. Інстытутам радыяцыйных фізіка-хімічных праблем укаранёна канвеерная сістэма стэрылізацыі партый медыцынскіх шпрыцоў, матэрыялаў для арганізацый Міністэрства аховы здароўя і прадуктаў дзіцячага харчавання.**

**У ходзе рэалізацыі праграмы «Машынабудаўніцтва» калектывамі генеральных канструктараў М. С. Высоцкага і П. А. Амельчанкі выраблены і перададзены на выпрабаванні ўзоры трактароў новага пакалення, малагабарытнай трактарнай тэхнікі, адбываецца далейшае нарошчванне канструктарскай базы выпрабавальных і дыягнастычных сродкаў для павышэння канкурэнтаздольнасці магістральных аўтапаяздоў і трактароў пры садзейнічанні ІТК, ІНДМАШа, ІПФ.**

**Для машынабудаўнічых прадпрыемстваў рэспублікі выпушчаны ўстановачныя партыі новых спецыялізаваных матэрыялаў і вырабаў з іх, у тым ліку металарэжучая кераміка для апрацоўкі чугуна і загартаваных сталей, матэрыялы на аснове поліэфірурэтанаў для элементаў рухомых і нерухомых ушчыльнікаў і г. д.**

**Што тычыцца асноўных праблем і ацэнкі цяперашняй сітуацыі, то трэба сказаць, што праблемы інстытутаў тэхнічнага профілю ўзніклі не сёння. Не сакрэт, што ільвіная доля тэматыкі фінансавалася па лініі ВПК або МА былога СССР. У такіх інстытутах, як АНТК «Сосны», АНК «ІЦМА імя А. В. Лыкава» доля фінансавання абароннай тэматыкі была больш за 50 працэнтаў. У ІММС, ФТІ, ІПФ, ІТМ (г. Магілёў) яна была 30—40 працэнтаў. Пазбавіўшыся заказаў па лініі Міністэрства абароны, калектывы інстытутаў раптоўна трапілі ў цяжкі фінансавы стан. З распадам Саюза ў рэспубліцы засталіся дзесяткі галіновых інстытутаў абароннага профілю, якія таксама засталіся без заказаў і фінансаў. Урад зрабіў амаль немагчымае, падтрымаўшы іх прамым выдзяленнем бюджэту і ўскосна праз рэспубліканскія навукова-тэхнічныя праграмы. Аднак, бюджэтных сродкаў аказалася недастаткова, каб выратаваць хаця б асноўныя ачагі тэхнічнага інтэлекту.**

**Галапіруючая інфляцыя, бязмежжа ў цэнах за цяпло, ваду, электраэнергію, драконаўскія і бессэнсоўныя налогі (тыпу налогу на дабаўленую вартасць) прывялі да таго, што сродкаў, якія выдзяляюцца на навуку, не хапае на аплату нават камунальных паслуг. За студзень — люты камунальныя паслугі інстытутаў аддзялення склалі 605888, 925 тысяч рублёў (плюс доўг 376232, 700 тысяч), г. зн., прыкладна 980 мільёнаў рублёў. Сродкі, выдзеленыя з бюджэту для ўсяго аддзялення на год, роўныя 4919 мільёнам рублёў. Амаль такую ж суму мы зарабляем у 1994 годзе па заданнях навукова-тэхнічных праграм і асобных дзяржзаказах. Іншых крыніц няма і не будзе. Што далей? Трэба выкарыстаць усе магчымыя паходы ва ўрад, Вярхоўны Савет, выходзіць з заканадаўчай ініцыятывай аб адмене або зніжэнню налогаабкладання ўстаноў навукі. Гэта датычыцца і інвестыцый у навуку. Трэба заахвочваць і падтрымліваць МП-структуры, якія вырабляюць навукаёмістую прадукцыю. У іх няма зваротных сродкаў і стартавага капіталу. Трэба прасіць ці патрабаваць ад дырэктыўных органаў, камісій Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў стварыць інавацыйны фонд падтрымкі навукаёмістага бізнесу, патрэбны льготныя крэдыты, вызваленне на 3—5 першых гадоў ад налогаў, патрэбен закон аб навукова-тэхнічнай дзейнасці і закон аб кантрактным найме. Трэба зняць усе абмежаванні на сумяшчэнне і аплату навуковых работнікаў, якія займаюцца навукаёмістай вытворчасцю. Трэба таксама ўзаконіць тэхнапаркі, калі мы хочам падтрымаць інтэлектуальны патэнцыял нацыі. Трэба і ў Акадэміі навук развіваць фірменную навуку.**

**Не чакаючы дзеянняў з боку ўрада і яго структур, трэба трымаць элітную частку кадраў, даплачваючы ёй хаця б 50 працэнтаў да акладаў. Сёння мізэрны бюджэт нельга раздаваць раўнамерна, падушна калектывам як жабракам пятакі. Яго трэба накіроўваць адрасна, канкрэтна лідэрам, школам і на падтрымку прыярытэтных накірункаў. Мне прыемна адзначыць, што ў аддзяленні ў гэтым накірунку ёсць узаемаразуменне, падтрымка, ёсць і зрухі ў «прызямленні» касмічнай і абароннай тэматыкі на патрэбы рэгіёна. Прынцып тут жорсткі — сусветны ўзровень. Усё астатняе павінна працаваць на навуковае суправаджэнне прадукцыі, якая вытрымлівае канкурэнцыю ці патрэбна людзям, ці часткова здымае выдаткі на імпарт, і на гэтым зарабляць.**

**Вельмі непакоіць усіх дэмаграфічная сітуацыя. Сёння мы і кадры вышэйшай кваліфікацыі выйшлі на 60-гадовы рубеж. Гэтакая ж сітуацыя і ў вышэйшай школе. Трэба карэнным чынам мяняць сістэму і правілы падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі. Аспірантура з яе інерцыённасцю даўно памерла, трымаецца фармальна. Дарогу трэба даваць маладым, таленавітым, ствараючы ім заканадаўча, матэрыяльна, маральна асаблівыя ўмовы, не абцяжарваючы штодзённымі клопатамі аб здабычы сродкаў да існавання. Трэба пачынаць інакш. Мы ўжо адчапілі вагоны поезда з моладдзю, а самі «едзем» у небыццё. Адбылося самае пагубнае ў навуцы: разрыў пакаленняў, эстафеты ў перадачы вопыту. Пакуль не позна, трэба штосьці пачынаць рабіць.**

**Творчасці патрэбны пэўныя ўмовы, але і ў самыя цяжкія гады, часы — людзі навукі працавалі і стваралі. Нам таксама нельга ўпадаць у апатыю, і ў гэты час не губляць надзеі і працаваць.**

## З даклада акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук акадэміка *Г. М. ЛЫЧА*

Праблем за апошні час у нас назапасілася столькі, што сёння з-за іх стала практычна немагчыма плённа працаваць.

Першае, на чым неабходна засяродзіць увагу — гэта пагражальнае павелічэнне разрыву паміж высокімі аб'ектыўнымі запатрабаваннямі грамадства да гуманітарных навук і неапраўдана абмежаванымі памерамі іх фактычнага задавальнення.

Безумоўна, разрыў паміж запатрабаваннямі грамадства і рэальнымі магчымасцямі гуманітарных навук з'явіўся не сёння. Ён існаваў даўно. Гэта тлумачыцца перш за ўсё згубнай стратэгіяй развіцця гуманітарных навук у колішнім Саюзе. Яе сутнасць, калі гаварыць коратка, зводзілася да таго, што зазначаныя навукі павінны былі развівацца пераважна ў саюзным цэнтры. Што датычыць саюзных рэспублік, то ў іх гуманітарныя навукі развіваліся галоўным чынам з улікам таго, каб забяспечыць правядзенне вышэйшых ідэй марксізму-ленінізму «ад Масквы да самых да акраін».

За апошнія чатыры гады — з 1989 года, калі яшчэ захоўвалася пэўная стабільнасць у кадравым саставе навуковых устаноў акадэміі, па 1993 год — агульная колькасць работнікаў па АГН зменшылася на 30 працэнтаў, у тым ліку навуковых супрацоўнікаў — на 36 працэнтаў. Дарэчы, па тэмпах змяншэння колькасці навуковых супрацоўнікаў наша аддзяленне ўпэўнена ўтрымлівае лідэрства ў акадэміі.

Сёння ў чатырох з сямі інстытутаў АГН колькасць навуковых супрацоўнікаў складае 50 чалавек і меней. Па сутнасці, яны ўжо страцілі магчымасць толькі за кошт уласных сіл забяспечыць неабходную комплекснасць фундаментальных даследаванняў па свайму профілю. Больш таго, яны не заўсёды маюць нават магчымасць забяспечыць належную каардынацыю навуковых даследаванняў.

Ёсць цэлыя напрамкі фундаментальных даследаванняў, якія пакуль што не атрымалі ў нас, па сутнасці, ніякага развіцця.

Справа ўскладняецца тым, што рэзкае змяншэнне колькасці навуковых супрацоўнікаў суправаджаецца іх старэннем. У цэлым па аддзяленню на канец 1993 года сярэдні ўзрост акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў склаў больш за 66 гадоў, дактароў — 60 і кандыдатаў навук — 46 гадоў.

Адзначаная непажаданая тэндэнцыя выклікана, з аднаго боку, рэзкім змяншэннем прытоку ў навуку маладых кадраў, у тым ліку выпускнікоў вну, а з другога — масавым адтокам маладых навукоўцаў у розныя камерцыйныя структуры, дзяржаўныя ўстановы і органы кіравання, а то і далей — за мяжу.

Асаблівую трывогу выклікае рэзкае згортванне падрыхтоўкі навуковых кадраў праз аспірантуру. У апошнія гады ўсё часцей здараюцца выпадкі, калі ў інстытут прымаецца з адрывам ад вытворчасці ўсяго толькі адзін аспірант, а то і ўвогуле ніводнага. Карацей кажучы, акадэмія перастае быць галоўным рэспубліканскім цэнтрам падрыхтоўкі высокакваліфікаваных навуковых кадраў. І гэта вельмі прыкра. Асабліва калі ўлічыць, што пераважная большасць прафесарска-выкладчыцкага саставу нашых вну і значная колькасць адказных работнікаў органаў дзяржаўнага кіравання рэспублікі былі падрыхтаваны праз аспірантуры пры навукова-даследчых установах Аддзялення гуманітарных навук.

У апошні час на шляху высокаэфектыўнага выкарыстання працы вучоных-гуманітарыяў створана шмат дадатковых сур'ёзных перашкод. Адно толькі рэзкае змяншэнне фінансавання нашых інстытутаў што значыць!

Для чаго мы вырашылі аб усім гэтым сказаць? Перш за ўсё для таго, каб абгрунтаваць неабходнасць асобага падыходу да развіцця гуманітарных навук, папярэдзіць аб згубнасці якога б там ні было далейшага наўмыснага скарачэння кадраў навукова-даследчых устаноў Аддзялення гуманітарных навук. Усім нам трэба зразумець: калі не будзе прадухілены канчатковы развал гуманітарнай навукі ў акадэміі, то наша грамадства непазбежна панясе непапраўныя страты. Бо яго на сучасным этапе ні ў якім разе не зможа кампенсаваць якое б там ні было паскоранае развіццё гуманітарных навук у нашых вышэйшых навучальных установах. Асабліва з улікам іх сённяшняга таксама крызіснага стану. Тым больш, што існуюць агульнанацыянальныя комплексныя праблемы, якія лепш за ўсё могуць вырашацца менавіта комплекснымі навуковымі цэнтрамі, якім па праву з'яўляецца Акадэмія навук Беларусі і, у прыватнасці, яе Аддзяленне гуманітарных навук.

Па другое, у адрозненне, напрыклад, ад вытворчасці першакласнага аўтамабіля ці камбайна, ні ў адной краіне свету мы ніколі не купім ліцэнзіі на наша палітыка-прававое, сацыяльна-эканамічнае і нацыянальна-культурнае абнаўленне і далейшае развіццё. Усеабдымныя і абгрунтаваныя рэкамендацыі на гэты конт можа даць беларускаму парламенту і ўраду толькі айчынная гуманітарная навука. І ніхто болей.

Таму мы лічым, што гуманітарным навукам, у тым ліку АГН акадэміі, павінна быць неадкладна аказана належная дзяржаўная падтрымка.

# Агульны сход Акадэміі навук Беларусі

## З даклада акадэміка-сакратара Аддзялення хімічных і геалагічных навук акадэміка І. І. ЛІШТВАНА

**Навукова-даследчыя работы ў 1993 г. былі накіраваны на вырашэнне актуальных задач у галіне фізічнай, калоіднай, арганічнай, неарганічнай і біяарганічнай хіміі, хіміі высокамалекулярных спалучэнняў, комплексных праблем геалагічных навук па вывучэнню саставу, будовы і эвалюцыі зямной кары і верхняй мантыі тэрыторыі Беларусі, вывучэнне праблем устойлівасці экалагічных сістэм у прыродна-тэрытарыяльных комплексах, антрапагеннага ўздзеяння на атмасферу і інш.**

**У Інстытуце фізіка-арганічнай хіміі пад кіраўніцтвам акадэміка У. С. Салдатава створана тэарэтычная мадэль, якая дазваляе прадказаць уплыў разнастайных фактараў на крывыя патэнцыяметрычнага цітравання іанітаў, што дае магчымасць выбіраць аптымальныя ўмовы для вызначэння абменнай ёмкасці іонаабменнікаў, якія шырока выкарыстоўваюцца ў прамысловасці.**

**У лабараторыі доктара хімічных навук А. І. Валожына сінтэзаваны высокамалекулярныя паліміды, якія раствараюцца ў арганічных растваральніках, і на іх аснове атрыманы высокатрывалыя і тэрмастойкія плёнкі, якія прадстаўляюць інтарэс для тэхналагічных працэсаў мікраэлектронікі.**

**Доктар хімічных навук У. Я. Агабекаў разам с супрацоўнікамі паказаў прынцыповую магчымасць фарміравання анізатропных эпітаксіальных плёнак. Яны перспектыўны для выкарыстання ў оптаэлектроніцы і біятэхналогіі.**

**У цэлым інстытутам унесены пэўны ўклад у развіццё актуальных навуковых напрамкаў у галіне хіміі высокамалекулярных спалучэнняў і арганічнай хіміі. Разам з тым трэба адзначыць, што ў апошнія два гады назіраецца зніжэнне колькасці публікацый, асабліва навуковых аглядаў і абагульняючых манаграфій.**

**У Інстытуце агульнай і неарганічнай хіміі пад кіраўніцтвам акадэміка У. С. Камарова і доктара хімічных навук А. І. Рацько распрацаваны фізіка-хімічныя асновы сінтэза адсарбента-каталізатара. Гэты адсарбент прызначаны для глыбокай ачысткі паветраных сумесей. На аснове таннай мясцовай сыравіны распрацаваны новы кампазіцыйны адсарбент, які садзейнічае зніжэнню ўдзельнай актыўнасці радыёактыўнага воднага асяроддзя.**

**Членам-карэспандэнтам М. П. Круцько з супрацоўнікамі распрацаваны фізіка-хімічныя асновы сінтэзу кампазіцыйных саставаў з валокнаў часткова стабілізаванага дыяксіда цырконія і атрыманы сітаватыя, трывалыя керамічныя матэрыялы, перспектыўныя для высокатэмпературнай цеплаізаляцыі і фільтрацыі вадкасцей.**

**На пасяджэнні бюро аддзялення інстытуту было прапанавана правесці аналіз тэматыкі асобных лабараторый з мэтай набліжэння яе да патрэб краіны. Адзначана таксама неабходнасць пашырэння кантактаў з замежнымі навуковымі цэнтрамі.**

**У Інстытуце біяарганічнай хіміі акадэмікам А. А. Стральчонкам з супрацоўнікамі вызначаны параметры ўтварэння комплексаў паміж тырэоіднымі гармонамі і імунаглабулінамі розных класаў. Упершыню паказана, што імунаглабуліны прымаюць непасрэдны ўдзел у рэгуляцыі дзеяння тырэоідных гармонаў на клеткі тканак арганізма чалавека.**

**У лабараторыі доктара хімічных навук І. А. Міхайлопула распрацаваны два альтэрнатыўныя спосабы атрымання вытворчых цытыдзіна, якія выкарыстоўваюцца для лячэння СНІДа.**

**Інстытутам праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі распрацавана канцэпцыя прымянення элементарных ландшафтаў як зыходнай прыроднай адзінкі геаэкалагічнага канструявання. Сфармуляваны прынцыпы стварэння тэрытарыяльнага пашпарту.**

**Творчы калектыў на чале з членам-карэспандэнтам У. Ф. Логінавым устанавіў трэндавыя і цыклічныя састаўляючыя ў змяненні клімату Беларусі, звязаныя з прыроднымі і антрапагеннымі фактарамі. Зроблена высноваа аб павелічэнні анамальнасці клімату рэспублікі і распрацаваны верагодносныя мадэлі для разліку экстрэмальных характарыстык часовых радоў тэмпературы паветра.**

**У выніку вывучэння біягеахімічных асаблівасцей фракцый гумінавых рэчываў каўстабіялітаў распрацаваны новыя віды меліярантаў, сумесей угнаенняў, паглынальнікаў радыенуклідаў і цяжкіх металаў.**

**У Інстытуце геахімічных навук акадэмікам Р. Г. Гарэцкім з супрацоўнікамі складзены шэраг літолага-палеагеаграфічных карт захада Усходне-Еўрапейскай платформы, на аснове якіх паказана гісторыя развіцця постварысцыйскіх седыментацыйных басейнаў гэтага рэгіёна і іх сувязей з глабальнымі геадынамічнымі падзеямі.**

**Пад кіраўніцтвам акадэміка А. В. Мацвеева выкананы разлік устойлівасці зямной паверхні да тэхнагенных нагрузак, вывучаны асаблівасці дэградацыі мерзлаты ў познеледніковы перыяд.**

**Рэспубліканскім навукова-тэхнічным цэнтрам «Экамір» сумесна з іншымі ўстановамі распрацаваны методыкі дыстанцыйнай ацэнкі стану пасеваў яравых з мэтай ранняга прагнозу ўраджаю.**

**Па выніках даследаванняў інстытутамі аддзялення за прайшоўшы год здадзены ў друк 7 манаграфій і 453 навуковыя артыкулы. Пададзена 33 заяўкі ў Беларускае і Расійскае ведамствы на мяркуемыя вынаходкі, атрымана 40 станоўчых рашэнняў на выдачу патэнтаў. У 1993 г. абаронена 3 доктарскія і 18 кандыдацкіх дысертацый.**

**З вялікімі цяжкасцямі сутыкаюцца інстытуты ў правядзенні экспедыцыйных работ, пра важнасць якіх для інстытутаў геалагічнага і экалагічнага профілю залішне і казаць. Надзвычай цяжка стала набываць хімічныя рэактывы, без якіх нельга ўявіць плённай працы інстытутаў хімічнага профілю.**

**Інстытуты адчуваюць усё большы інфармацыйны голад з-за адсутнасці сродкаў на набыццё навуковай перыёдыкі з краін СНД і асабліва з далёкага замежжа.**

## З даклада акадэміка-сакратара Аддзялення фізікі, матэматыкі, інфарматыкі В. С. БУРАКОВА

У мінулым годзе аддзяленне каардынавала даследаванні па 11 праграмах найважнейшых навукова-даследчых работ, уключаўшых больш за 220 тэм. З іх прыкладна 2/3 выконваліся інстытутамі АНБ і 1/3 — установамі Міністэрства адукацыі. Выконвалася таксама шмат работ па грантах Фонду фундаментальных даследаванняў, навукова-тэхнічных праграмах, дзяржзаказах і прамых дагаворах з прадпрыемствамі.

У Інстытуце матэматыкі распрацавана агульная схема даследавання аператара «уваход-выхад» для шырокага класа эвалюцыйных сістэм, заснаваная на спецыяльных прадстаўленнях некаторых паўгруп у функцыянальных прасторах. Атрыманы вынікі, якія дазваляюць праектаваць спецпрацэсары з найлепшымі часовымі паказчыкамі для рашэння многіх задач вылічальнай матэматыкі і апрацоўкі сігналаў, што патрабуюць звышхуткіх вылічэнняў.

У галіне лазернай фізікі інстытутамі фізікі, малекулярнай і атамнай фізікі, электронікі, аддзелам аптычных праблем інфарматыкі атрыманы шэраг істотных вынікаў. Вучонымі ўпершыню створаны кампазіцыйныя асяроддзі для лазераў на аснове бінарных комплексаў малекул фарбавальнікаў, упершыню атрымана генерацыя святла ў каналах стрымерных разрадаў у некаторых тыпах монакрышталяў, выяўлены ўмовы факусіроўкі і бездыфракцыйнага распаўсюджвання пучкоў святла ў некаторых тыпах крышталяў. Праведзены таксама даследаванні новых дынамічных з'яў палярызацыі выпрамянення ў лазерах, распрацаваны новыя метады і сродкі павелічэння стабільнасці галаграфічных сістэм рэгістрацыі і счытвання інфармацыі.

Побач з навуковым відавочны прыкладны аспект гэтых работ. Найбольш яўна ён праявіўся ў навукова-тэхнічнай праграме «Белоптыка», сфарміраванай у 1993 г. У ёй Інстытут фізікі ажыццяўляе каардынацыю работ па буйной падпраграме «Лазерна-аптычныя тэхналогіі», якая аб'ядноўвае 18 праектаў. У іх распрацоўцы прымаюць удзел інстытуты электронікі, малекулярнай і атамнай фізікі, аддзел аптычных праблем інфарматыкі, а таксама навуковыя ўстановы Міністэрства адукацыі. У рамках гэтай праграмы павінны быць распрацаваны і выпушчаны доследныя ўзоры лазераў і ўстановак на іх аснове, прызначаныя для апрацоўкі матэрыялаў і інфармацыі ў галіне прамысловай вытворчасці і навукова-тэхнічных даследаванняў. У цяперашніх умовах укараненне вынікаў у гэтай галіне вельмі ўскладнена. Таму правядзенне маркетынгу павінна стаць адной з важных стадый навукова-тэхнічных распрацовак.

Інстытут фізікі, акрамя ўказанай праграмы, выканаў шэраг іншых праектаў на карысць медыцыны і экалогіі, многія з распрацовак укаранёны, паўднёва-карэйскай фірме «Самсунг» прададзена ліцэнзія. У актыў ІМАФ трэба аднесці і шырокае выкарыстанне прапанаваных люмінесцэнтных маркераў для сакрэтыравання каштоўных папер, а таксама перадачу ў клінічную практыку эфектыўнага сенсібілізатара для фотатэрапіі анкалагічных захворванняў.

У галіне інфармацыйных тэхналогій сканцэнтраваны асноўныя напрамкі дзейнасці Інстытута тэхнічнай кібернетыкі. У прайшоўшым годзе інстытут выконваў прыкладна 40 праектаў па рэспубліканскіх навукова-тэхнічных праграмах, укараніў 32 распрацоўкі. Сярод іх — інфармацыйна-вымяральныя, дыягнастычныя комплексы і сродкі для праектных работ на МТЗ, ВА «Гарызонт», ВА «Белвар», НВА імя Кірава і шэрагу іншых прадпрыемстваў і арганізацый, уключаючы лёгкую і харчовую прамысловасць, медыцыну і экалогію. Калектыў у стане ўзначаліць буйную праграму ў галіне новых інфармацыйных тэхналогій.

Актуальныя даследаванні Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў па праблематыцы высокатэмпературнай звышправоднасці, атрыманню матэрыялаў з каштоўнымі фізічнымі ўласцівасцямі, а таксама па іх выкарыстанню ў прыкладных мэтах. З канкрэтных вынікаў варта адзначыць наступныя: прапанавана тэарэтычная мадэль, на аснове якой аказалася магчымым растлумачыць як высокую крытычную тэмпературу звышправоднага пераходу, так і анамальныя паводзіны шэрагу іншых характарыстык высокатэмпературных звышправодных матэрыялаў; распрацаваны фізіка-хімічныя асновы працэса атрымання магній-цынкавых ферытавых парашкоў з сыравінных крыніц Беларусі.

Працягвалася ўкараненне вынікаў работ праз малыя прадпрыемствы пры інстытуце. Асвоена тэхналогія перапрацоўкі адходаў вытворчасці Беларускага металургічнага завода (г. Жлобін) з мэтай атрымання ферытавых парашкоў для вырабу кампанентаў аксідных магнітаў. Асвоена таксама вытворчасць магнітамяккіх ферытаў з заменай вострадэфіцытнага нікелю на больш танны магній. Распачата вытворчасць фільтраў на дыэлектрычных рэзанатарах для сістэм кабельнага тэлебачання; заказчыкі — ВА «Гарызонт», Віцебскі тэлевізійны завод, ВА «Хваля» (г. Гродна).

Заслугоўвае ўвагі вопыт работы навукова-укараняльных МП гэтага інстытута. Аднак эфектыўнасць і ўзаемакарыснасць сумеснай дзейнасці сур'ёзна зніжаюцца з-за адсутнасці дакладнай нарматыўнай базы, якая б рэгулявала адносіны паміж інстытутамі і МП у сістэме Акадэміі навук.

За год доля базавага бюджэту па аддзяленню ўпала з 62 да 47 працэнтаў у агульным аб'ёме фінансавання. У інстытутах аддзялення, апрача ІТК, не было заказчыкаў з рэспублік былога Саюза. Вялікі аб'ём работ па дзяржзаказах і навукова-тэхнічных праграмах пры цяперашнім узроўні іх арганізацыі стварае непераадольныя цяжкасці ў дзейнасці інстытутаў. Як правіла, у першым паўгоддзі не паступаюць сродкі, інстытуты трасе, работы пралангіруюцца, іх актуальнасць і ўзровень зніжаюцца. Мы ўправе прасіць Саўмін і Мінэканомікі вырашыць праблему своечасовага фінансавання важных прыкладных работ.

У апошнія 3 гады колькасны склад працуючых у інстытутах і КБ аддзялення зменшыўся на 40 працэнтаў. Асабліва значнае скарачэнне адбылося ў 1992 г. (звыш 900 чалавек).

Неспрыяльнае становішча з прытокам маладых супрацоўнікаў у інстытуты. З года ў год змяншаецца набор у аспірантуру і колькасць абарон кандыдацкіх дысертацый (у 1992 г. — 43, у 1993 — 30). Прычын тут некалькі. Не падуладны нам набухаючы прэстыж камерцыйнай дзейнасці, адцягваючы моладзь, але тое-сёе можна ж распачаць і ў інстытутах.

Дагэтуль не вырашана пытанне аб удзеле акадэмічных інстытутаў у навукова-вучэбнай рабоце вну. Чытанне лекцый і спецкурсаў — гэта было і ёсць. Але патрэбны больш грунтоўныя падыходы. Пажадана ў поўным аб'ёме рэалізаваць рашэнне прэзідыума аб стварэнні навукова-вучэбных цэнтраў АНБ і БДУ (магчыма і іншых вну). У цэлым там разумныя ідэі арганізацыі і ўдасканалення вучэбнага працэсу, стажыроўкі выкладчыцкага саставу, арганізацыі сумесных даследаванняў. Толькі не трэба зводзіць работу гэтых цэнтраў на аматарскую аснову. З боку акадэмічных інстытутаў трэба вышукаць і адпаведныя плошчы, і фінансавыя рэсурсы. Канешне, гэта зараз у дэфіцыце, але гаворка ідзе аб будучым нашых лабараторый і інстытутаў, заняпад якіх непазбежны пры адсутнасці эфектыўных сувязей з вышэйшай школай, ва ўмовах прыпынення прытоку маладых спецыялістаў.

У красавіку 1993 г. праведзена сумеснае пасяджэнне рэктарата БДУ і бюро нашага аддзялення. Выпрацаван шэраг мерапрыемстваў. Рашэнне перададзена сумеснай камісіі АНБ і Мінадукацыі. Але рэальны эфект дзеяння і нашага бюро, і камісіі — мінімальны.

Для каардынацыі навуковых даследаванняў па плану найважнейшых работ існуюць 11 навуковых саветаў. Аднак іх роля нязначная. І яна з года ў год зніжаецца, паколькі знік орган, які аб'ядноўваў і накіроўваў іх работу, — савет па каардынацыі навуковай дзейнасці.

Прыкладна год назад у Саўмін накіраваны прапановы па рэканструкцыі савета па каардынацыі навуковай дзейнасці, па некаторых структурных пераўтварэннях навуковых устаноў і акадэміі ў цэлым. Былі сур'ёзныя прапановы, накіраваныя фактычна на стварэнне Нацыянальнай акадэміі навук і мастацтваў. Прапановы прадставілі, а ног пашкадавалі. Эфект атрымаўся адваротны чаканаму. Наш статут самакіравальнай арганізацыі прывёў, па сутнасці, да спынення рэальных, устойлівых, дзелавых кантактаў з Саўмінам, Мінэканомікі, іх аддзеламі. Адсюль нявызначанасць перспектыў развіцця акадэміі, зніжэнне яе ролі ў каардынацыі фундаментальных даследаванняў і фарміраванні навукова-тэхнічных праграм, неведанне і недаацэнка ва ўрадзе і дзяржструктурах аб'ёмаў і значнасці прыкладных работ акадэмічных інстытутаў. Дажылі да таго, што БІТА дае заключэнні аб навуковай (не прыкладной!) значнасці гаспдагаварных работ нашых інстытутаў, каб разабрацца з налогам на дабаўленую вартасць!

Гэта не толькі крытыка, але і самакрытыка. Мяняць нам трэба стыль работы, а калі перашкаджае статут — яго таксама трэба мяняць.

ПРАБЛЕМЫ НАШАГА ЖЫЦЦЯ

# АДЗІНОТА ў кожнага свая

*ЛЮДМІЛА МАШУКОВА,*
*старшы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АНБ*



*Адзінота...* Яна пачынаецца з моманту, калі чалавек застаецца адзін. Паехалі ў адпачынак дамачадцы, разлучыўся з блізкім чалавекам.

Але ці адзінота гэта? А хіба не? І ноч жа бярэ пачатак з прыцемкаў. У кожнай з'явы свае ступені нарастання асноўнай якасці. Гэтая форма адзіноты — самая простая.

Немагчыма, напэўна, пражыць жыццё, не разлучаючыся з блізкімі. Калі ў аснове такой адзіноты працягваюць жыць глыбокія сувязі, якія аб'ядноўваюць людзей адно з адным, яна, нягледзячы на разлуку, пазітыўная і бязбольная. Аднак жыццё поўнае і іншымі прыкладамі, калі стасункі рвуцца назаўсёды. У падобным выпадку зараджаецца хвароба душы, і мінуць яе немагчыма. Цурбалкі яшчэ жывых стасункаў крываточаць. Жыццё напоўнена вобразамі, набытымі ў зносінах людзей. Чым яны былі глыбейшымі і змястоўнейшымі, тым мацнейшыя і яскравейшыя вобразы. Патрабуецца час, каб раны загаіліся, а вобразы, не сілкуемыя ўзаемазносінамі, страцілі сваю сілу, адышлі ў мінулае. Такая адзінота негатыўная, пакутлівая, і каб перажыць яе, патрэбна мужнасць.

*Але без адзіноты няма развіцця,* паколькі яна па сутнасці сваёй ёсць зварот чалавека да самога сябе для пераацэнкі нажытага вопыту і дыялектычнага зняцця ягонага зместу. Калі ў першым выпадку гэтым працэсам кіруе любоў, то ў другім — ён перададзены ў рукі пакуты. Узнагарода за перажытае адна: радасць адноўленага стану. Але плата розная. Хаця ў жыцці, як правіла, не бывае такога строгага падзелу, у жыцці ўсё суседнічае адно з адным, адно дапаўняе і абумоўлівае іншае. Усё можна накіраваць для свайго дабра, варта праявіць вялікадушнасць, і, наадварот, пры маладушнасці ўсё «працуе» — і без нашага на тое жадання — на разбурэнне і дэградацыю асобаснага свету носьбіта гэтай маладушнасці. Нічога не паробіш, што пасееш, тое і пажнеш. Каб не пажынаць «волчцы и тернии», *важна праходзіць цераз узніклыя станы адзіноты,* як, зрэшты, і цераз любыя іншыя станы, што вырастаюць на жыццёвым шляху. Прычым, *ісці трэба царскім шляхам,* гэта значыць, не ўхіляючыся ні ўлева, ні ўправа. Разгледзім гэта на прыкладах.

Адзінота, знітаваная з пераглядам нажытага вопыту і адарваннем старых жыццёвых формаў, заўсёды ў большай або меншай ступені хваравітая: даводзіцца ж скідаць старую скуру. З апаскі болю ўзнікае спакуса: пайсці «налева» ад адзіноты, замяніць гэты стан, чым-кольвечы больш прыемным. Выбар зроблены, дзеянні распачаты, і вынік не запаволіць прыйсці. Чалавек пачынае пераходзіць ад адной сітуацыі да іншай, звычайна менш змястоўнай, трацячы (марнуючы) пры гэтым асобасны патэнцыял сіл. Гэта — рух па нахіленай плоскасці ўніз, і чым далей, тым цяжэй спыніцца. Патрэбны моцны стрэс, каб чалавек спыніў падзенне. Наша рэальнасць багатая такімі фактамі.

Прыглядзьцеся да натоўпу мужчын ля піўнога ларка. Жаданне выпіць піва не ва ўсіх галоўнае. Гэта ж можна зрабіць і ў больш прыемных абставінах. Аднак яны гадзінамі таўкуцца тут, п'юць у антысанітарных умовах. Няцяжка здагадацца, што прычына такіх паводзін — уцёкі ад сябе, ад адзіноты, пошук зносін з да сябе падобнымі, у кампаніі якіх душэўны дыскамфорт менш мучыць заняпалага або маларазвітага чалавека. Амаль тое ж убачыш і на вечарынах для «тых, каму за 30». Падобны чалавек, што ўцякае ад сябе,— знаходка для нядобрасумленных людзей, бо ён згодзіцца на любую ролю, абы да чагосьці мець дачыненне, камусьці належаць. Адзінота гэтых людзей невыносная.

Э. По ў адным з сваіх апавяданняў апісаў драму адзінокага чалавека, што выпаў з сістэмы непасрэдных стасункаў. Са старонак кнігі паўстае вобраз лядашчага старога, які не мог быць сам-насам з сабой нават непрацяглы час. З выразам жаху і роспачы на твары ён апантана да глыбокай ночы шукаў натоўп і бадзяўся ў ім, пакуль той не рассяваўся. «Чалавек натоўпу» усё ж на нейкі час пазбаўляўся ад пустэчы вакол сябе, здавальняючыся сурагатам зносін. Такі ж сурагат — запаўненне многімі вольнага часу бясконцым глядзеннем у тэлевізар, беззмястоўнымі размовамі, сексам і г.д.

Сітуацыі, што параджаюць адзіноту, могуць быць і больш жорсткімі, напрыклад, хвароба, нейкая вымушаная ізаляцыя, звязаная са стыхійнымі бедствамі. Тут перажыванні найбольш хваравітыя, бо чалавек не лічыць сябе вінаватым ва ўзнікненні такіх становішчаў, упадае ў паніку, страчвае мужнасць і тым набліжае сумны зыход.

Найбольш наглядна пераконваюць у гэтым караблекрушэнні. 90 працэнтаў ахвяр, якія высадзіліся на ратавальныя сродкі, гінуць у першыя тры дні за катастрофай. Гінуць не ад смагі і голаду — ад маладушнасці і панікі. Мужныя ўрачы-даследчыкі Бамбар, Ліндэман і іншыя, заклапочаныя праблемай, даказалі сваімі працяглымі адзіночнымі плаваннямі ў акіяне без папярэдніх запасаў ежы і вады, што чалавек можа выйсці пераможцай у барацьбе са стыхіяй і нават памножыць духоўны капітал.

Што ўплывае на зыход барацьбы? Як ні дзіўна, не процістаянне, а пакорлівасць перад абставінамі: *да таго, што нельга змяніць, трэба прыстасавацца,* і, не губляючы сябе, вывучыць знутры механізмы, якія вызначаюць сітуацыю і рухаюць ёю, звесці да мінімуму выдаткі. Надыдзе час і выйсце знойдзецца. Ва ўсякім выпадку, трэба пазмагацца.

Дык вось, трэба прыняць адзіноту, калі яна прыйшла, прапусціць праз уласную душу, г. зн. перажыць усё, чым яна багатая, не адракаючыся гароты, не выбіраючы прыемнага. *Зазнаць гора неабходна да канца.* Толькі гэтак можна асвоіць у цэласнасці змест перажываемага стану, дакладней, нейкага адрэзка быцця, зняць яго сэнсы і зрабіць іх умовамі ўтварэння сябе як цэласнасці на якасна новым узроўні існавання. Такой паўнатой зняцця перажытага зместу і вызначаюцца незвычайныя асобы. Гэта, уласна, і робіць іх тым, што яны сабой уяўляюць, у адрозненне ад пасрэдных натур, здольных у любую хвіліну да адступлення, кампрамісу. Натур, што імкнуцца да атрымання імгненнай выгады і тым самым абкрадаюць саміх сябе. Горка і балюча бывае толькі напачатку, калі скідаецца старая форма. А потым — *радасць, захапляючае пачуццё абноўленага быцця,* новыя сілы і новыя магчымасці. Дзеля гэтага варта прайсці цераз пакуты, зазнаць гора.

## КОНКУРСЫ, ВАКАНСІІ

Аддзяленне гуманітарных навук АН Беларусі аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад дырэктара Інстытута літаратуры, дырэктара Інстытута мовазнаўства, дырэктара Інстытута філасофіі і права.

Права вылучэння кандыдатаў на ўказаныя пасады маюць: бюро аддзялення, вучоны савет і навуковыя структурныя падраздзяленні названых інстытутаў, члены Акадэміі навук Беларусі.

Прапановы аб вылучэнні кандыдатаў на аб'яўленыя пасады накіроўваць да 3 мая 1994 года па адрасу: 220072, Мінск, прасп. Ф. Скарыны, 66, Аддзяленне гуманітарных навук АН Беларусі.

# Надыйшоў час ратаваць народ

16 лютага 1994 года Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравала статут грамадскага аб'яднання «Фонд нацыянальнага выратавання» (выдадзена пасведчанне за № 639).

Такую гучную назву свайго аб'яднання заснавальнікі тлумачаць наступным чынам: Чарнобыльская катастрофа, без перабольшання, паставіла на мяжу біялагічнага выжывання народ Беларусі. Ужо сёння смяротнасць насельніцтва рэспублікі перавышае нараджальнасць. І становішча працягвае пагаршацца.

ФНВ аб'ядноўвае самых розных людзей: вучоных, палітыкаў, прадпрымальнікаў... Аб'яднаўшыся, яны распрацавалі «Комплексную нацыянальную праграму адраджэння Беларусі» (гл. «Навіны АНБ» № 45 за 1993 год). Адной з галоўных задач Фонду з'яўляецца выратаванне народа Беларусі ад пагрозы бялковага і вітаміннага голаду шляхам фінансавай падтрымкі праектаў «Жывыя сокі» і «Бялковае харчаванне».

Прэзідэнт ФНВ Валерый Шумілаў заявіў, што першай неадкладнай справай Фонду будзе стварэнне на базе НДІ анкалогіі і радыялогіі аддзялення для безнадзейна хворых людзей, што паміраюць ад раку і іншых цяжкіх хвароб і якім традыцыйная медыцына ўжо не можа дапамагчы. Па просьбе кіраўніка ФНВ мы называем іх разліковы рахунак: КБ «Акадэмбанк» філіял АКБ «Пошук» № 700421 код 730.

А. БІЦАРУК.

# Памяці таварыша



6 сакавіка раптоўна памёр таленавіты вучоны, чалавек вялікай унутранай высакароднасці і незвычайна шырокіх інтарэсаў кандыдат фізіка-матэматычных навук, старшы навуковы супрацоўнік АНК «Інстытут цепла- і масаабмену імя А. В. Лыкава» Анатоль Барысавіч Бартман.

Нарадзіўся ён у Адэсе. Пасля сканчэння школы паступіў на матэматычны факультэт БДУ і скончыў яго ў 1961 г. Пачаўшы як чысты матэматык (першыя яго вынікі былі ў галіне тэорыі лікаў і аналізу), ён у канцы 50-х гадоў быў пакораны прыгажосцю і перспектывамі квантавай тэорыі поля, і гэта дваістасць інтарэсаў назаўсёды засталася ў яго творчасці. Адпрацаваўшы два гады ў вясковай школе, ён у 1963 г. паступіў у аспірантуру ІЦМА, дзе пад кіраўніцтвам Т. Л. Перальмана пачаў актыўную даследчую работу ўжо ў галіне матэматычнай фізікі. Вынікам шматгадовай працы ў калектыве тэарэтыкаў ІЦМА А. Б. Бартманам і Т. Л. Перальманам быў распрацаваны новы метад рашэння краявых задач для ўраўненняў пераносу. Сутнасць метаду і прыклады яго выкарыстання выкладзены ў іх манаграфіі «Новый асимптотический метод аналитической теории переноса» (Мінск, «Навука і тэхніка», 1975 г.). У 1976 г. А. Б. Бартман у Інстытуце хімічнай фізікі АН СССР абараніў кандыдацкую дысертацыю. Гэтыя даследаванні прывялі да распрацоўкі метаду аналітычнага прадаўжэння інтэгральных трансфармант, які дазваляе праводзіць эфектыўны асімптатычны аналіз складаных лінейных і нелінейных задач цеплаправоднасці, дыфузіі, радыяцыйнага пераносу.

Наступным этапам яго даследаванняў была распрацоўка агульнай схемы вытваральных функцый для пабудовы дакладных рашэнняў задач нелінейнай дыфузіі, класічнай гідрадынамікі і іншых задач тэорыі патэнцыялу. Канкрэтныя вынікі вывучэння нелінейных ураўненняў тыпу Бюргерса і гідрадынамікі віхравых сістэм былі пакладзены ў аснову яго доктарскай дысертацыі, абарона якой была намечана на канец года.

У сваёй працы А. Б. Бартман ніколі не абмяжоўваўся рашэннем прыватных задач, ён заўсёды цікавіўся агульнымі праблемамі матэматычнай фізікі.

Вялікая яго роля ў навукова-арганізацыйных справах. Ён актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі штогодных полацкіх семінараў па нелінейных з'явах у складаных сістэмах і летніх школ у Браславе. Некалькі дзесяцігоддзяў ён быў вучоным сакратаром секцыі Навуковага савета па праблеме «Маса- і цеплаперанос у тэхналагічных працэсах» пры Дзяржкамітэце па навуцы і тэхніцы СССР, вучоным сакратаром Мінскага цеплафізічнага семінара. Вялікі яго ўклад у арганізацыю школ і семінараў Міжнароднага цэнтра пры ІЦМА для павышэння кваліфікацыі навуковых кадраў па цепла- і масаабмену. Ён быў адным з ідэйных заснавальнікаў навукова-інавацыйнай кампаніі «ВОМА», задуманай, каб аблегчыць уваходжанне беларускіх вучоных у сусветную навуковую супольнасць. Па яго ініцыятыве пачалі выходзіць даведачна-інфармацыйныя зборнікі «Математические исследования в Беларуси».

Для многіх Анатоль Барысавіч быў сапраўдным настаўнікам, узорам бескарыслівага служэння навуцы. Яго чалавечыя якасці, абаянне асобы, шырыня навуковых інтарэсаў і захапленне духоўнымі праблемамі стваралі асаблівую атмасферу ў калектыве. Ён належаў да рэдкіх у фізіка-матэматычным асяроддзі людзей з глыбокімі гуманітарнымі інтарэсамі. Таму сярод яго сяброў былі не толькі матэматыкі і фізікі, але і філосафы, гісторыкі, рэжысёры, акцёры, мастакі. Ён валодаў дарам выкладаць свае думкі ў яскравай літаратурнай форме.

А. Б. Бартман быў цудоўным кнігалюбам, які жыў сярод кніг. Дзякуючы яго ўменню арыентавацца ў шырокім інфармацыйным патоку друкаванай прадукцыі і сапраўды энцыклапедычным ведам ён быў бескарыслівым дарадчыкам для многіх сваіх сяброў і знаёмых.

У будзённым жыцці ярка адораны і тэмпераментны па прыродзе, ён быў чалавекам выключнай сціпласці.

Мы ўпэўнены, што імя Анатоля Барысавіча Бартмана назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, каму пашчасціла яго ведаць.

А. Ц. УЛАСАЎ,
В. Р. ЛЕЙЦЫНА,
М. У. ПАЎЛЮКЕВІЧ,
В. А. САСІНОВІЧ,
С. П. ФІСЕНКА.

**«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»**

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля ШЫМАНОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 13.04.94 г.
Зак. 1025
Тыраж 1250 экз.

Індэкс 64123
Пры перадруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.